Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 64 (115). Вільня, Серада 7 Верасьня 1927 г. Год III.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.

Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска: на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал. Для заграніцы удвая даражэй.

Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Няхай жыве Беларуская Моладзь!

Было многа шуму, а вынікаў зусім мала. Блізкія да ўраду колы, як беларускія, так і польскія, увесь час трубілі аб тым, што Віленская Беларуская Гімназія пераходзіць у поўнае падпарадкаваньне ўраду, ды што стаўшы гэтакай, атрымоўвае ўрадавыя правы. Дзякуючы таму, што больш, акрамя чуткаў, нічога рэальнага ня было' мы да гэтага часу не забіралі голасу, бо навошта-ж гаварыць дарэмна? Цяпер, перад стаўшымися фактам, хочацца прытачыць некалькі сваіх увагаў. Перадусім трэба адзначыць, што гімназія па даўнейшаму астаецца на сваім прыватным палажэньні і без правоў. А калі гэтак, дык паўстае пытаньне, як лепей? Мусім агаварыцца, што і так дрэнна і гэтак блага і вось чаму! Калі-б гімназія стала ўрадоваю, дык яна перастала-б быць беларускаю. Больш, як дзьве гадзіны на тыдзень, беларускаю мовою там не займаліся-б. Праўда, тагды-б вучні гэтакай гімназіі мелі-б правы і маглі-б выкарыстаць іх для таго, каб вучыцца далей у польскіх унівэрсытэтах. Гэта можа і было-б карысна некаторым вучням, але-ж нашай Бацькаўшчыне-Беларусі была-б вялікая страта. Як-ні-як, а Беларус, акончыўшы польскую гімназію і ўнівэрсытэт, нахапаўся-б хоць трошкі польскага духу. І калі ня стаў-бы рэнегатам (былі-б і гэтакія здарэньні), дык палянафілам пэўна зрабіўся-б у значнай меры. Ясна, што ад гэтага Беларусі лепш ня было-б. Цяпер-жа справа стаіць іначай: той, хто ня мае прыязьні да Беларусі, адразу ідзе ў польскія школы, а хто лічыць патрэбным працаваць выключна на карысьць Бацькаўшчыны, дык здабывае веду ў сваей роднай школе. І, калі праходзіць ён беларускую гімназію, дык з аднаго боку веда дапамагае разумець гаротнае палажэньне Бацькаўшчыны, а з другога—тая несправядлівасьць, якая творыцца над ім, (бо ён фактычна астаецца без нічога), змушае яго шукаць выхаду і пабуджае да барацьбы і змаганьня за належныя яму правы. Кожны Беларус, змагаючыся за свае асабістае права, гэтым самым змагаецца і за правы ўсяго народу. Дык ясна, ад таго, што не папала Віленская Беларуская Гімназія пад поўнае уладаньне польскага ўраду, Беларусь выйграе. Пацерпяць нейкі час яе вучні, але-ж ня будзе заўсёды гэтак як ёсьць—мусіць усё зьменіцца... А тагды Бацькаўшчына не забудзе сваіх верных сыноў!...

Калі быў шум, дык быў нейкі рух, які выклікаў яго. Ясна, што ўрад, у мэтах паланізацыі Віленскае Беларускае Гімназі, нешта хацеў зрабіць. Гэтае нешта, магчыма, на першы пагляд здавалася-б карысным для гімназіі. аднак фактычна пэўныя карысьці для гімназіі прышлося-б Беларусам дорага аплаціць. Калі-б урад шчыра ішоў на спатканьне Беларусам, дык ужо даўно мог Віленскай Беларускай Гімназіі прызнаць правы. Гэта-ж польскі ўрад сёлета прызнаў правы тром расейскім гімназіям. Як-жа гэта так? Прызнаў расейскі гімназіям правы, а беларускім—не?!

Расейцы на беларускіх землях становяць меншасьць і дзеля гэтага ня могуць раўнаць на дзяржаўнае становішча ў нашым краі. Беларусы, наадварот, складаюць вялізарную большасьць на свaей роднай зямлі і затым павінна быць поўнымі гаспадарамі на Бацькаўшчыне. Ясная рэч, што польская ўлада імкнецца да прытрымліваньня беларускага руху, а захады што да гімназіі якраз мелі гэта на мэце.

Вось у гэтым і выяўляецца ўвесь трагізм. Не даючы правоў, не прызнаючы субсыдыяў гімназіі і ўтрудняючы здабыцьцё веды, якую моладзь атрымлівае ў беларускіх гімназіях, урад думае, што гэтым самым адбівае ахвоту ў беларускае моладзі вучыцца ў родных школах. Урад думае, што змусіць гэтым самым нашу моладзь вучыцца ў польскіх школах і прызвычайвацца праз гэта да польскасьці.

Аднак-жа трэба ведаць, што выходзіць наадварот: моладзь імкнецца да здабыцьця веды праз родную школу, а здабыўшы яе становіцца дзейным змагаром за належныя правы. І ў гэтым я бачу нашае нацыянальнае збаўленьне і шлях да сацыяльнага вызваленьня. Няхай жыве Беларуская Моладзь з любасьцю да роднае школы!

Скарга.

## Праца ксяндза Бародзіча ў Леванполі.

„Kurjer Wileński" зьмяшчае гэтакую вестку: „Вядомы кс. Бародзіч паміма таго, што некалькі дзён таму назад быў тут пракурор Раузэ і кіраўнік аддзелу рэлігіяў у ваяводзкім урадзе п. Пятровіч, які рабіў падрабязнае высьвятленьне ў справе ўжо ведамых, праступных здарэньняў, выкліканых тым-жа капланам—не навучаны дасьледамі арганізаваў сёньня ізноў банду, з дапамогай якое гвалтам увайшоў на праваслаўна—каталіцкі магільнік і паставіў там капліцу.

Магілкі і крыжы ізноў зьняважыў. У дадатку натоўп, падбураны кс. Бародзічам паламаў усю загароду магільніка.

Дзякуючы толькі спрыту тутэйшага каманданта пастарунку Дзярж. пал. пшодоўніка Оркіша, абышлося бяз праліцьця крыві, які паміма зьневажэньня яго кс. Бародзічам і заклікy да непаслушэнства паліцыі ня вышоў з раўнавагі, заспакайваючы ўзбураныя натоўпы з аднаго боку праваслаўных, а з другога каталікоў, якія паддаліся агітацыі кс. Бародзіча.

Быў выкліканы браслаўскі стараста і паўтовы камандант дзяржаўнае паліцыі ў Браслаўі.

Арыштавана 2 асобы".

## Забойства ў савецкім пасольстве ў Варшаве.

2 г. верасьня ў памешканьні савецкага пасольства ў Варшаве, савецкі кур'ер Гусеў забіў нейкага 20 гадовага Трайковіча. Трайковіч родам паходзіць з Вільні: за чым ён прышоў у савецкае пасольства ня ведама.

Згодна газэтных вестак, здарылася забойства пры такіх абставінах: Трайковіч зьявіўшыся ў пасольства хацеў, каб яго дапусьцілі да часовага савецкага пасла Ульянава. Але-ж пасольскія прыслужнікі спрацівіліся гэтаму, дык бышцам Трайковіч з нажом кінуўся да аднаго з прыслужнікаў і ўдарыў у твар. У гэты час другі даў у Трайковіча пяць стрэлаў з рэвальвэра. Дзьве кулі папалі ў сэрца і Трайковіч на месцы ўпаў мертвым.

Трайковіч па нацыянальнасьці зьяўляецца Расейцам, але польскі грамадзянін; па палітычных пераконаньнях—манархіст, бышцам прыяцель Кавэрды, забойцы савецкага пасла Войкава.

Сям'я Трайковіча вельмі многа ўцярпела ад бальшавікоў, два яго браты былі разстраляны бальшавікамі.

Дзеля гэтага самага паўстаюць думкі, што Трайковіч зьявіўся ў пасольства з намерамі помсты. Пры ім знайдзены рэвальвэр, але без набояў.

У гэтай справе вядзецца сьледзтва польскімі ўладамі.

Паміж Саветамі і Польшчаю ніякіх спрэчкаў ці непаразуменьняў не паўстане. Прынамся гэтак пішуць газэты.

## Паводка і віхор у Галіцыі.

У Львоўскім і Станіславаўскім ваяводзтвах паводка, якая прычынілася ад навальніцы, натварыла вялікія страты: у раёне паводкі, амальшто ўсе масты ўзарваны, дык чыгункавы рух спыніўся, на палёх, дзе яшчэ не сабрана было збожжа, вада змыла і панясла яго. Вёскі і мястэчкі, якія пабудаваны каля рэчкаў, залітыя вадою, людзі ратуюцца на стрэхах дамоў. Многа людзей утапілася. Так напрыклад у Тлумацкім павеце сем вёсак зусім зьнішчана. У аднэй вёсцы 8, у другой 6, у трэцяй 7 і ў чацьвертай 5 чалавек утапілася. У тэй мясцовасьці вада разбурыла каля 100 дамоў.

Згодна афіцыяльна дадзеных у Станіславаўскім ваяводзтве ўтапілася 50 чалавяк, у тэй лічбе некалькі паліцыянтаў.

У часе навальніцы разгуляўся віхор, які ў мясцовасьці Шляхэцкія Ладзкі мамэнтальна разбурыў будынкі 54 гаспадаркаў, так што не асталося нават сьледу. Некалькі сотняў чалавек астаецца без даху над галавою.

Некаторыя мясцовасьці паводка гэтак ахапіла, што няма ніякае магчымасьці не дайсьці, не даехаць. Шмат-дзе вада размыла насыпы чыгункавых дарогаў, а нават разваліла некалькі мураваных дамоў. Паводка і віхор прычынілі стратаў на некалькі мілёнаў злотых.

У некаторых рэках вада павысілася на 4 мэтры, дык ясна, што не магла зьмясьціцца ў берагох, а выступіўшы з іх заліла вялікія абшары.

Навальніца з віхром, якія гулялі ў працягу 15 мінут, стварылі пекла на зямлі... Забабонныя людзі думалі, што ўжо надходзіць канец сьвету.

## Выпадкі атруты ў войску.

Гэтымі днямі жаўнеры 6 пех. палку Легіёнаў атрымалі замест сьвеж. мяса кансэрвы. Пасьля абеду выявіліся прыметы атруты ў 114 жаўнераў. Атручаных жаўнераў атправілі ў госпіталь, дзе удалося ім жыцьцё уратаваць. Пустыя банкі ад кансэрваў атправілі ў Варшаву на „збаданьне".

У гытай справе вайсковыя ўлады вяцуць сьледзства, якія вынікі будуць, яшчэ ня ведама. Аднак-жа цяпер, само па сабе гэтае здарэньне сьвядчыць, якія парадачкі і абставіны пануюць у польскай дзяржаве...

## Тыдзень камуністычнай моладзі.

Ад 1 па 7 верасьня адбываўся Тыдзень Камуністычнай Моладзі. У гэтыя дні моладзь ладзіць маніфэстацыі і наагул выказвае сваю арганізованнасьць ды жаданьні.

4 г. верасьня ў нядзелю, у Вільні на пляцу каля інстытуту Сьнядэцкіх сабраўся натоўп моладзі прыблізна 150 асобаў, які маючы чырвоныя сьцягі рушыўся паходам па Завальнай вуліцы.

Паходу заступіў дарогу пам. каманданта і агэнт сьледчага ўраду, якім прыбыла на падмогу паліцыя, у мэтах разагнаць маніфэстантаў.

У выніку ўсяго гэтага два маніфэстанты атрымалі ўдары шабляю.

Натоўп разышоўся. Асталося двох раненых. З пасярод патоўпу 15 чалавек арыштавана.

# З жыцьця Польшчы.

### Хто атрымовае земляробскую дапамогу.

Польская газэта „Воля Люду" зьмясьціла вестку, што са 100 з лішкай міліёнаў злотых дзяржаўнае дапамогі, атрымалі дробныя земляробы 8.700.000 зл., а вялікія земляробы (абшарнікі) — 96 міліёнаў злотых!

Як відаць з гэтага, піша „Работнік", дык п. мін. Незабытоўскі зьяўляецца міністрам не земляробства, а абшарніцтва.

### У марыявітаў—камуна.

У Польшчы ёсьць марыявіты, гэтак называецца польская рэлігійная сэкта. Нядаўна, некалькі супрацаўнікоў варшавскіх газэтаў адведалі марыявіцкі манастырь, дзе знаходзяцца манахі—марыявіты, як мужчыны так і жанчыны. Разумеецца, што яны вядуць жыцьцё супольна—по камуністычнаму, а ў адносінах аднаго полу да другога карыстаюцца гэтак званаю — містычнаю жаніцьбаю і вось вынікі гэтага сужыцьця: „у Фэліцыянаве, у пекна ўпарадкаваным асяродку распарцалянага паміж марыявітамі маёнтку, увідзелі мы сваімі вачыма зусім рэальныя плады містычнае жаніцьбы. Дзеці, якім налічваецца ад 2 месяцаў да трох гадоў (ёсьць іх некалькі), узгадоўваюцца супольна пад апекаю адумысных нянек, набраных з „сёстраў"—манашак. Бацькі могуць іх адведаць, але-ж ня могуць пазнаць. А з гэтага вынікае, што кожная матка марыявіцянка аддае сваё дзіця ў прытулак, дык ня відзеўшы яго праз нейкі час ня можа ужо пазнаць. Але-ж гэтак і трэба, бо кожная марыявіцянка ўсякае дзіця лічыць сваім, так сказаць па-Божаскі.

За гэтакі парадак жыцьця каталіцкія газэты вельмі нападаюць на марыявітаў і дамагаюцца ад ураду рэпрэсыяў адносна апошніх.

### Польшча і пазычка.

Нейк вясною Польшча падпісала з амэрыканскімі банкірамі дагавор, згодна якога быццам у восені г. г. апошнія павінны былі пазычыць Польшчы 15 мільёнаў даляраў. Ад часу падпісаньня дагавору больш няма ніякае чуткі адносна пазычкі. Толькі вось гэтымі днямі польскія газэты зьмясьцілі вестку, аб тым, што адзін вядомы амэрыканскі эканаміст Фішар высказаўся, што Польшчы можна даць пазычку аж 120 мільёнаў даляраў. Праф. Фішар пробаваў даказаць, што гаспадарчае палажэньне Польшчы паправілася, дык знача можна ёй ужо даверыць. Але-ж праф. Фішар не дасьць грошай, а той хто можа даць, дык паглядзіць сам, можна ці ня можна Польшчы даверыцца... З усяго-ж гэтага відна, што Польшча ня мае да сябе веры ў іншых дзяржаваў.

### Будуецца польскі флот.

Кіраўніцтва польскім флотам закантрактавала ўва Францыі пабудаваць 3 падводныя лодкі і 2 контр-міналосцы, якія маюць быць гатовымі толькі ў 1929 годзе.

### Дарагоўля ў Польшчы павышаецца.

Камісія па выясьненьні павышэньня дарагоўлі, на сваім апошнім паседжаньні ўстанавіла, што дарагоўля ў Польшчы за жнівень месяц, у параўнаньні да ліпеня, павысілася на 7 проц.

# НАВІНЫ.

— **Беларускі Народны Тэатр** 6 г. верасьня вярнуўся з правінцыі ў Вільню. У Вільні мае прабыць два тыдні ў мэтах адпачынку, пасьля чаго выедзе ізноў на правінцыю. Настрой у артыстаў бадзёры, захопліваючы, а гэта гавора, што Беларусь жыве і будзе жыць, бо мае сыноў, якія, ня гледзячы на цяжкія варункі сучаснага жыцьця непакідаюць яе.

Беларускі Народны Тэатр наладзіў у ніжэйпаданых месцовасьцях агульным лікам за 2½ месяцы 36 спэктакляў: Смаргоні—1, Жодзішкі—1, Лебедзева—3, Маладэчна—1, Краснае—2, Вішнева—3, Валожын—3, Іўе—3, Молчадзь—4, Баранавічы—2, Ляхавічы 1, Мядзьведзічы—2, Гайнін—1, Гарадзея—2, Круты-Бераг—1, Рубяжэвічы—4 і Івянец—2.

— **Беларуская гімназія ў Вільні.** Беларуская Віленская гімназія астаецца прыватнаю на даўнейшым палажэньні. Дырэктарам гімназіі зьяўляецца грамадзянін С. Паўловіч. Заняткі распачаліся 5 верасьня.

— **Ліквідацыя беластоцкага куратарства.** Паводле вестак з польскіх газэт, у сёлетнім школьным годзе мае быць аканчальна зьліквідавана беластоцкае школьнае куратарства, пры гэтым наваградзкі вокруг пяройдзе да віленскага куратарства, а беластоцкі да варшаўскага.

Такім падзелам польская ўлада хоча беластоцкае ваяводзтва цалком далучыць да Кангрэсоўкі, і такім чынам, каб хутчэй яго спалянізаваць. Як бачым, апрача Беластоцкага, Бельскага, Сакольскага, Аўгустоўскага паветаў, якія ўжо раней былі залічаны да „rdzennie" польскіх зямель (языковыя ўставы там не абавязуюць) польскі ўрад хоча далучыць да Варшавы Горадзенскі і Ваўкавыскі паветы. Проці гэтага беларускія арганізацыі павінны запратэставаць.

— **Паседжаньне меставай Рады.** 1-га г. верасьня адбылося паседжаньне віленскай меставай Рады. Як і заўсёды, дык і на гэты раз, паседжаньне займалася гутаркаю. Дык вось, з гэтае гутаркі мы і даведаліся вельмі цікавую навіну. З усяго жыхарства м. Вільні 75 проц. не мае каналізацыі (адход памыеў), вадаправодаў і электрычнасьці. І як выясьнілася, дык жыхары места Вільні не карыстаюцца гэтымі культурнымі рэчамі толькі дзеля таго, што ў натуральным стане яны здабываюцца танней. Рэфэратар па гэтым пытаньням віцэ-старшыня Рады п. Чыж раіў прымусова ўвясьці каналізацыю, вадаправоды і электрычнасьць для тых жыхароў м. Вільні, якія іх яшчэ ня маюць. Але-ж тут ізноў бяда... бо, напрыклад, тыя жыхары, якія маюць электрычнасьць, дык усёроўна карыстаюцца звычайнымі лямпамі. Калі гэтак, дык справядлівей было-б, каб меставая Рада замест прымусу, пашукала іншы сродак... А то прымус благая рада...

Лявіца меставай Рады запрапанавала назваць адну вуліцу ў Вільні, вуліцаю Лекерта—рэвалюцыянэра, якога царская ўлада растраляла за напад на губэрнатара. Разумеецца, што проці гэтага пратэстюць эндэкі, ня толькі ў Радзе, але-ж і цераз свае экспазытуры. Апрача гэтага, эндэкі пратэстуюць проці дапушчэньня ў Раду беларускай, літоўскай, расейскай і жыдоўскай моваў.

— **Справа 10 і 20 злотавых паперак.** Польскі Банк з 1 г. верасьня прыступіў да зьбіраньня з грашовага абароту 10 і 20 злотавых паперкаў, г. зн. 10 і 20 злотавыя паперкі выпуску 28 лютага 1919 г. і 15 ліпеня 1924 году з казначэйства выпускацца ня будуць. У публічным карыстаньні іх можна будзе прынімаць да 28 лютага 1928 года. Ад 1 да 31 сакавіка 1928 года, гэтыя паперкі будуць выменьваць толькі аддзелы Банку, а пасьля 31 сакавіка 1928 года, яны трацяць усякую цану і нідзе прынімацца ўжо ня будуць.

— **З калёшы ды ў будку.** У той час калі адбывалася ў Жэнэве канфэрэнцыя нацыянальных меншасьцяў, дзе быў прысутным пасол Рагуля, як прадстаўнік Беларускага Нацыянальнага Камітэту, Паўлюкевіч, каб дагадзіць сваім хлебадаўцам пераслаў канфэрэнцыі тэлеграму, якою пробаваў даказываць, што пас. Рагуля не зьяўляецца прадстаўніком Беларускаго Народу. Гэта нічога, што за пасла Рагулю галасавалі некалькі тысячаў чалавек, гэта нічога, што на канфэрэнцыю дэлегаваў пасла Рагулю ўвесь Пасольскі Клюб, ды Нацыянальны камітэт, Паўлюкевіч пробаваў даказаць, што бяз яго, дык ніхто нічога ня варт, быццам і ён нешта значыць... Але сталася, як належала быць, бо ўжо весь сьвет знае, што Паўлюкевіч, мае толькі „Будку", з якое і зьвягае на Беларусаў, а за гэта дастае кавалак „насушчнага", дык ясна ўвесь пратэст астаўся без увагі.

Канфэрэнцыя ведала, хто такі Паўлюкевіч і чаго ён варт, дык і яго пратэст пашоў у кошык... ды на сьметнік.

Але-ж мала гэтага. Нават той хто дае Паўлюкевічу магчымасьць істнаваць не здаволіўся яго ўчынкам, бо „Kurjer Wileński" зьмяшчаючы тэлеграму, выказаў гэта, у сваёй зацемцы. А калі так, дык справа Паўлюкевіча не паправілася, бо ён быццам вылез з калёшы, але-ж за тое папаў у „Будку", так што „дзела" шырэй не пашло.

— **Іх прызваітасьць.** У Вільні на пляцу сьв. Магдалены два чалавекі з вышэйшай асьветай паказалі сваю прызваітасьць і тую вучонасьць, якую здабылі на вышэйшых школах за межамі Беларусі. „Доктар" Паўлючок ды спадар Станкеўчык спаткаліся і абадраліся.

Паўлючок Станкеўчыку па мордзе ляп, а Станкеўчык Паўлючку па галаве цяп... Наагул, „культурныя" людзі зрабілі гэтак, як п'яныя каля плоту.

За тое, што ў газэцэ мы іх называем гэтак, як яны заслужываюць, дык яны паднімаюць—крык. То-ж лаянка. Але-ж цяпер, дык стала ясна, што паважна гаварыць належыць аб паважных людзях, а місюгіных, трэба называць заўсёды і усюды іх запраўднымі „тытуламі".

# Паганая служба.

Восень... Хмурная, мокрая, сумная... Шэрыя хмары завалаклі неба. Гульлівы вецер лёгка і вольна пяець сваю сумную песьню, Часам з нейкаю-бы злосьбю рвець пажоўклае лісьця з дрэваў і гоніць яго перад сабою няведама навошта і куды.

Там на даліне за сялом зьбіраюцца, гуртуюцца птушкі перад атлётам у далёкую падарожжу, іх жаласьлівыя працяжныя крыкі паганяюць на сэрца смутак, трывогу. Чуецца, што надхедзіць сьцюдзёная, марозная зіма.

Сумна аддаецца песьня дзяўчынак у полі або ў лесі. У тэй песьні няма ігрывай надзеі і адвагі, якую чуем мы вясною; гэта не тая паважна-задумчывая песьня, якая ў ціхі летні вечар нясецца над палямі, якія шумяць сьпелымі калосьсямі; гэта—песьня суму і жальбы аб далёкім мінулым—песьня восені.

Хмурна і сумна на сьвеце...

Хмурна і сумна Пятруку было на сэрцы, калі ён нацягнуўшы на ногі боты, і накінуўшы на плечы шэрую куртку вышаў з дому.

Яшчэ хмурнейшы Пятрук стаў, калі праходзячы па вуліцы пачуў за сабою ўсьлед:

— „Гэць шпік пашоў!" „Эй шпіцэль!..." Здавалася Пятруку, што ўсе, каго ён спаткаў, старыя сяляне і нават малыя дзеці неяк прыглядаліся да яго і з дакорам у думках пасылалі праклёны.

— „Не на такога папалі"—і са злосьці шчыміў кулакі...

Шпаркім крокам вышаўшы за вёску, Пятрук павярнуў у права і пашоў па вузенькай дарожцы, якая вілася сярод зарошых бярэзьнікам сялянскіх палёў.

— „А вы там хоць лопніце" — падумаў яшчэ аб астаўшыхся ў вёсцы сваіх „крыўдзіцелях". Пятрук быў злы.

— „Я вам пакажу насьмешкі; Сьцёпка—дык пасядзіць..."

Паказалася мястэчка. Вечарэла. Па вуліцы прашла чарада скаціны. Сяляне варочаліся з поля пасьля працы.

Крыху нялоўка стала Пятруку, калі ён скіраваўся да ўстановы „бясьпечнасьці".

Яму здавалася, што і тут кожны ведае дзеля чаго ён скіраваўся сюды. Яму здавалася, што кожны чытае яго найглыбейшыя чорныя намеры.

Установа „бясьпечнасьці" месьцілася ў доме сярод мястэчка, ля базарнае плошчы.

Побач выглядала, сярод купы старых ліп і кляёнаў, сьвежа памаляваная, стараньнем багамольных парахвіян—царква, і тут-жа месьцілася маленькая хатка сьвяшчэньніка.

У тэй установе Пятрук застаў толькі аднаго „бясьпечніка". На запытаньне дзе кіраўнік,—ён адказаў, што хутка прыйдзець і прасіў пачакаць.

Пятрук сеў на зэдліку ля вакна, якое выходзіла на вуліцу.

На вуліцы ігралі ў мячык грамадка малых дзяцей. Гледзячы на іх, Пятрук мімаволі, пачаў прыпамінаць сваё мінулае, калі ён таксама быў яшчэ дзіця, калі таксама ў запыленай кашульцы, замурзаўшыся бегаў па вуліцы. Паволі думкі яго перайшлі і да пазьнейшых часаў; ён прыпамінаець, як аднаго пекнага дня іх мірная вёска ўзбурылася наездам казакаў, якія загадалі ўраз-жа выехаць з вёскі ўсім сялянам, бо надходзіць вайна...Як за некалькі дзён па(тым, яны паклаўшы свае пажыткі ў воз, і запрогшы каня пацягнуліся ў далёкую Расею, ганімыя з-заду агнём гарматаў.

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Хаўтуры па Сакко і Ванцэцьці.

У Парыжы, на знак хаўтуроў па Сакко і Ванцэцьці, сабраўся некалькі тысячны натоўп.

Натоўп увайшоў у газард, дык і ўзяўся наводзіць разрахункі з буржўазіяй. Але-ж наляцела паліцыя, з якою завязалася бойка. Бойка была сур'ёзная. Былі ў абароце і рэвальверы і другое аружжа, а ў рэзультаце пралілася кроў. Месцамі даходзіла справа да кулакоў, ну тут, дык абходзілася—сінякамі.

Страты, ад гэтага парыскага здарэньня, аблічаюць на 12 мільёнаў франкаў. Разьбіта многа магазынаў ды крамаў, але-ж за ўсе страты—крамнікі атрымаюць вынагароду ад улады.

Бойка паўстала дзеля таго, што паліцыя хацела разагнаць звычайную маніфэстацыю.

### У кітайскім катле.

Вось запраўды трагізм. У працягу некалькі гадоў цягнецца крывавая хатняя вайна ў Кітаі і канца ёй ня відаць. Разьбіўшыся на некалькі варожых сабе лагераў, Кітайцы б'юць самыя сябе і болей нічога.

Гэтымі днямі паўднёвая нацыяналістычная армія пабіла ізноў Чанг-Тсо-Ліна, які да гэтага часу быў пераможцам, ды ўжо зьбіраўся абвясьціць сябе кітайскім царом.

Штаб паўднёвае арміі паведамляе, што паўночная армія Чанг-Тсо-Ліна адступае. З-за пагрозы захвату нацыяналістамі чугункавай лініі на пунктах Цян-Дзін-Пукаў, армія Чанга эвакуіравала апошні.

Бойкі паміж абедзьвемі арміямі прыймаюць што-раз болей жорсткі характар, дзеля таго, што да абедзьвёх арміяў падашла дапамога. У часе бойкі 30 жніўня, якою распачалося наступленьне паўднёвае арміі на Чанг-Тсо-Ліна, яна страціла 1000 чалавек забітымі і 1500 раненымі. Страты Чанг-Тсо-Ліна ня ведамыя; весткі яго штаба гавораць толькі аб 1000 чалавек папаўшых у няволю да паўднёвае арміі.

Паўднёвая армія, падтрыманая 10.000-ным папаўненьнем, гатовіцца распачаць гэнэральнае наступленьне на Чанг-Тсо-Ліна.

Японія прыслала свае войска ў Манчжурыю, якое падашло да самай расейскай граніцы. Гэтым занепакоіліся бальшавікі. На запытаньне савецкаю ўладаю аб прычынах гэтага, японскі пасол у Маскве адказаў, што Японія прыслала войска ў Манчжурыю для абароны сваіх грамадзян у Кітаі.

### Адзнака часу.

Кожны перыяд гісторыі мае свой назоў. Так напрыклад, быў каменны век, гэта тагды, калі людзі выраблялі шмат якіх рэчаў з каменьня ня знаючы нічога аб жалезе, дык гэта і была—адзнака часу.

Гэтакай адзнакай часу ў сучасны перыяд гісторыі, зьяўляецца—паветраная гарачка. Бярэм для прыкладу адзін нумар штодзеннай газэты і вось там спатыкаем: „Лётнікі Цільлі і Мэдкальф падняліся ў Нью-Ерку на самалёце „Сэр Джон Кэрлінг", для палёту ў Эўропу".

„Наваколасьвятовыя лётнікі Брок і Шлі прыбылі ў Мюнхэн, закончыўшы другі этап свайго палёту".

„З Дэссаў паведамляюць, што дырэкторыя фірмы Юнкерса мела ўчора ізноў нараду з нямецкім транс—атлянтыцкімі лётнікамі па пытаньням магчымасьці другое іх пробы пераляцець пераз атлянтыцкі акіян па болей паўднёваму кірунку".

„Па весткам з Кельна, Кэннака таксама лічыць магчымым падняцьця ў аўторак ці ў сераду".

„Левін паляцеў на сваім самалёце з Парыжа".

„Канадзкія лётнікі вярнуліся".

Шукаюць Рэдфэрна, які выляцеў са Злучаных Штатаў у Бразылію і загінуў...

І гэта столькі вестак з аднаго дня, а калі ўзяць некалькі, дык стане ясным, што паветранныя палёты займаюць увагу людзей сучаснага перыяду.

Наагул, цяпер вельмі многа ўдзяляецца часу заваяваньню паветра і трэба адзначыць, што гэта справа пакуль што чалавеку ўдаецца.

Дайшло да таго, што на самалёце могуць праляцець 300 вёрст за гадзіну, а тую падарожу (напр. з Эўропы ў Амэрыку), якая на караблі займае 7—8 дзён, цяпер удаецца на самалёце адбыць за 30 гадзін.

Запраўды—адзнака часу!

### Балтыцкі саюз.

Маленькія балтыцкія дзяржавы: Фінляндыя, Эстонія, Латвія і Літва, якія выдзяліліся з Расеі ў часе рэвалюцыі, імкнуцца ўтрымаць сваю незалежнасьць, у мэтах гэтага яны стараюцца дагаварыцца паміж сабою аб супольным саюзе і разам дагаварыцца з Саветамі аб замацаваньні добрых адносінаў. З гэтае прычыны латвійскі міністар Цэленс прыяджжаў у Коўна, а эстонскі ў Рыгу.

Цяпер-жа, будучы на паседжаньні Лігі Нацыяў, міністры гэтых дзяржаваў маюць там спаткацца і супольна абгаварыць справу, як саюзу паміж сабою, так і адносін да Саветаў. З гэтае прычыны, як некаторыя думаюць, Ліга Нацыяў на сучасным сабраньні павінна падняць вялікую гутарку аб расейскіх справах.

Саюз балтыцкіх дзяржаваў падтрымоўвае Англія, якая хоча настроіць яго варожа да Саветаў, дзеля гэтага самага цяжка будзе балтыцкім дзяржавам дагаварыцца да ладу, бо некаторыя з іх знаходзяцца пад уплывам Англіі.

### Літва.

Літоўскі ўрад апрацаваў праект зьмены канстытуцыі літоўскай рэспублікі. Гэты праект аддаецца цяпер да публічнага ведама цераз газэты. Газэты будуць разглядаць і абгаварваць яго добрыя і благія бакі. Пасьля гэтакай крытыкі, праект новае канстытуцыі будзе адданы пад агульны плебісцыт усяго літоўскага грамадзянства. У гэтакім выпадку кожны літоўскі грамадзянін падасьць свой голас за ці проці праекту канстытуцыі. Так сказаць, кожны выявіць сваю волю і жаданьне адносна таго закону, які зьяўляецца асноваю дзяржаўнага ладу і парадку.

### Ліга Нацыяў.

Гэтымі днямі адбываюцца паседжаньні Лігі Нацыяў (Жэнэва—Швайцарыя). Пакуль што, дык праца выразілася на тым, што старшыня Рады Лігі Нацыяў выразіў спагад жалю з прычыны сьмерці румынскага караля, які памёр некалькі месяцаў назад. Пасьля гэтага заслухалі некалькі дакладаў аб працы розных камітэтаў эканамічнага характару. Палітычныя пытаньні не абгаварваліся, бо ня было на паседжаньні францускага міністра Брыяна.

Ліга Нацыяў, гэта—саюз пераважнай большасьці дзяржаваў сьвету. Да яе належыць нагляд за нацыянальнымі меншасьцямі, каб іх ня крыўдзілі дужэйшыя народы, але-ж нашыя пробы зьвярнуць увагу на нашае гаротнае палажэньне, Ліга Нацыяў ня брала пад увагу.

### Грэцыя.

У працягу некалькі гадоў, пасьля таго, як Грэкі скінулі караля, у іх панавалі розныя дыктатуры. З якіх зьяўлялася самаю выдатнаю—дыктатура Пангалоса. Аднак-жа настаў гэтакі час, што і Пангалоса скінулі. Каб пазбыцца дыктатураў на далей, дык ясна, неабходна завясьці парадак. І вось цяпер, здаецца, урад бярэцца за гэтую справу.

Грэцкі ўрад хоча цераз пасярэдніцтва агульнага галасаваньня, даведацца ад свайго грамадзянства: які лад яно жадае мець — манархістычны ці рэспубліканскі.

І калі ўрад дасьць магчымасьць кожнаму грамадзяніну свабодна выявіць сваю волю, дык запраўды будзе вельмі цікава, бо ідэя, сама па сабе надта—добрая.

---

Раптам думка яго пераляцела ў той час, калі нацярпеўшыся ўсяго на чужыні, яны таксама купіўшы за апошнія рэчы каня і сабраўшы ўсю бедную гаспадарку на воз, вярталіся на Бацькаўшчыну. Трудная падарожжа, пераезд цераз граніцу перарэзаўшую яго Бацькаўшчыну на двое... нарэшце паварот у родную вёску—ўсё гэта стала перад вачыма Пятрука.

Арганізацыі сялян для барацьбы за правы, школу, зямлю, і... ягоная „служба". Непрыемныя мурашкі забегалі па целе Пятрука пры гэтых успамінах... Служба!... як нязвычайна гучыць гэнае слова...

— Паганая служба!—з тою-ж страшэннаю пагардаю гаварыў яму потым кожны знаёмы.

Вагністымі літарамі два словы „паганая служба" стаялі перад яго вачыма заўсёды і ўсюды!...

— Чакай ты, злыдніку,—успомнілася яму перасьцярога аднаго з быўшых таварышаў — пакаешся але позна будзе!... Адумайся ў пару, Пятрук, і пры гэтай думцы ўсьміхнуўся... Ці-ж я ня ведаю сваю вёску—гэта ўсё трусы, якіх у куток адзін „бясьпечнік" пазаганяець...

— Усе трусы, але адзін сярод усіх знойдзецца адважнейшы і помсьціцца за ўсіх... — казаў яму другі ўнутраньні голас.

А калі мурашкі кончылі бегаць па целе Пятрука, дык ён махнуў рукою і для пэўнасьці памацаў кішаню, якая ад пачатку яго „службы" ня пуставала.

— Удавалася дагэтуль, неяк будзе і далей... А шмат ужо я іх туды адправіў, Гарасім Саўлюк—першая ахвяра, працавалі разам, Хведар Альховы—арганізатар сялян на вёсцы, Габрусь Парасё—вучыў дзяцей пабеларуску... ці пералічыш іх. Усіх іх цяпер аддзяляюць ад сьвету тоўстыя сьцены і моцныя краты...

— Ну, што чуваць новага?—раздаўся над самым вухам Пятрука голас кіраўніка.

— —

Ужо сцямнела, калі тою самаю дарогаю Пятрук вяртаўся дамоў, быў задаволены з сябе. Апошнія словы „начальніка" вярцаліся на вуме:

— Пастарайся выкрыць новапаўстаўшую тайную арганізацыю і, будзе добра. — Пятрук абяцаў за пару дзён выпаўніць заданьне.

— Каго-ж тут упячы,—думаў ідучы. Ажно нейкі шэлест у прыдарожным бярэзьняку змусіў яго ўздрыгнуць.

— Што гэта? Заяц прабег ці што? Ці на злодзею шапка гарыць? — Паслухаў і пашоў далей.

Раптам некалькі сільных рук схапілі яго за плечы і нейкая дзяруга ўпала на галаву і закрыла...

— За бацьку—шапнуў над яго вухам голас, і Пятрук зваліўся пад цяжкім ударам... Хацеў крыкнуць і—ня меў сілы. Некалькі рук падхапілі яго і павалаклі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У працягу наступных некалькі дзён кіраўнік дарэмна чакаў вестак ад Пятрука. Пятрук зьнік бяз сьледу.

---

У некалькі тыдняў пазьней, мясцовы рыбак плывучы ў чаўне па рэчцы, якая прабегаець зыгзагамі сярод шырокага балота, заўважыў, між лазою, неўкую раздутую страшэнную масу падобную да чалавечага цела.

Калі, па заведамленьні начальства, масу гэтую выдабылі з вады і „збадалі", дык прызналі ў ёй загінуўшага ў таемнічы спосаб Пятрука.

*Osa.*

---

# Дарога цярпеньняў.

(Пісьмо з Лідчыны).

> Сеючы-ж дома і за домам косьці —
> Дзе нас гналі нашы леташнія госьці—
> Як у пушчы цемнай, зьбіліся з дарогі
> І з дарма чакалі ад людзей падмогі...,
>
> *Я. Купала.*

Ад таго часу, калі пачалася сусьветная вайна, найбольш пацярпеў на сваей роднай зямельцы беларускі народ. Падчас акупацыі і эвакуацыі войскаў: нямецкіх, бальшавіцкіх, літоўскіх і польскіх, край беларускі быў зруйнаваны да шчэнту. Папалены вёскі, зьнішчаны лясы, зямелька перавернена на акопы ды бліндажы. Беларускія сяляне былі абголены і абдзёрты, цярпелі голад і холад, бо ўсё было вайсковымі забрана і змарнавана. Тыя, што паўцякалі ў Расею, таксама жыцьця ня мелі, ды там, дазнаўшы, як кажуць, холаду і голаду і рожных непрыемнасьцяў, нашы сяляне вярнуліся на сваю роднаю абгалелую ды зьнішчаную Бацькаўшчыну.

Кончылася сусьветная вайна, дык пачалася польска-бальшавіцкая. Тады неяк вельмі прыхільна польскія паны аднасіліся да народных меншасьцяў у гэтым ліку і да Беларусаў. Тады дакляравалася беларускім сялянам, ну! проста „поўная аўтаномія": зямля бяз выкупу (сялянам беззямельным і малазямельным), беларускія ўрадавыя школы, урадовыя пасады і г. п. А хто пойдзе ахвотнікам у польскае войска, дык потым, калі кончыцца вайна, дык мала таго, што атрымаець бясплатна надзел зямлі але да таго яшче будзе яму субсыдыя і субвэнцыя, наагул грашавая і матэрыяльная запамога. Польскія паны-абшарнікі, рэклямаваліся гэтак, бо бачылі, што перад імі стаіць вялікая пагроза з Усходу, дык на ўсё згаджаліся, каб толькі не дапусьціць чырвоных ворагаў. Праўда, што тады беларускіх легіянэраў у польскім войску не бракавала, нават з часткі беларускіх ахвотнікаў была сфарміравана польска-беларуская дывізія, на чале якой стаяў гэнэрал Жэлігоўскі. Таксама тады не мала пацярпела ад гэтае вайны беларускае сялянства, былі яны ў польскіх і ў бальшавіцкіх руках, як адны, так і другія лічылі сябе ворагамі да нашага сялянства.

Вось у 1921 годзе, кончылася і польска-бальшавіцкая вайна, і на моцы Рыжскага трактату Незалежная Беларусь была падзелена на дзьве часьці: Усходняю і Заходняю і малая частка прыпала ад поўначы Латвіі. Пасьля гэтае вайны, шмат беларускіх-сыноў-ахвотнікаў не вярнуліся, а якія вярнуліся, дык з радасьцю чакалі на абяцаную панамі абшарнікамі зямлю. Але ня так сталася, як думалі і спадзяваліся. Панскія абяцанкі замяніліся ў мыльны пузыр. Паны пачуўшы ў сваіх руках моц, пачалі інача́й гаварыць з нашамі сялянамі. Нашыя ахвотнікі, якія чакалі на зямлю не атрымалі яе. Распарцэляваныя маёнткі раздаваліся польскім ахвотнікам—з Галіцыі ды Кангрэсоўкі, а белерускія ахвотнікі ў месца зямлі і ўрадаваў пасады, пайшлі да асаднікаў ў парабкі. Лік беларускіх школаў паменшаўся: заснаваліся польскія школы. Напраўляюцца цяпер маёнткі ды фальваркі: паны-абшарнікі, шляхта і польскія асаднікі, атрымоўваючы ад

ураду розныя пазыкі ды запамогі. Аб беларускіх сялян зусім забылі, забылі нават аб тым, што яны істнуюць на сьвеце.

Адбываліся выбары ў Сойм і Сэнат. Тут ізноў пачалася хваля абяцаньняў. Ні адсюль, ні адтуль знашліся польскія суб'екты, якія прыгожымі слоўцамі раптам наабяцалі даць усё тое, чаго нашым сялянам трэ' было тагды, ды чаго няма цяпер. Ізноў чуліся такія-ж самыя мэлёдыі адносна да беларускіх сялян; рэпертуар быў вельмі багаты: „зямля бяз выкупу, урадовыя запамогі, беларускія дзяржаўныя школы, пасады і г. д.“, адным словак давалася ўсё беларускаму сялянству. Гэткімі замаскаванымі афэрыстамі былі: пэпэзсаўцы, пястоўцы, вызваленцы, ды іншыя польскія партыі. Проста навыперадкі адзін перад другім „давалі“ адныя больш за другіх, выхваляючы сваю праграму. Найбольш задаваляючы поступ здабылі вызваленцы, яны неяк найспрытней, са сваімі пекнымі фразамі, падлабуніліся да нашага сялянства і найбалей, здалелі атуманіць беларускае сялянства. Знайшлося толькі малая жменька больш сьвядомых сялян, якія аддалі свае галасы за запраўдных беларускіх барацьбітоў. Вось на гэтым тагды і кончыліся выбары ў Сойм і Сэнат. Паслалі нашыя селяне польскіх „абяцальнікаў“ туды, адкуль тыя „абяцалі“ прынесьці сялянам „райскае жыцьцё“. Ці-ж так сталася? Дзе там! Мала таго, што паслы—палякі, здабыўшы беларускія мандаты, забылі аб сваіх абавязках перад выбаршчыкамі але-ж яны прыхіліліся да такіх уставаў, якія моцна крыўдзяць Беларусаў.

Пасьля выбарнае „цэрамоніі“, нашае жыцьцё замест таго каб палепшалася, наадварот вельмі пагоршылася. Як аказалася, не сялянам беларускім далі „райскае жыцьцё, а наадварот, селяне палепшылі, ды яшчэ як, быт сваім „абяцальнікам“. Прайшоў год, другі, трэці, як няма палепшаньня дык і няма. Падаткі як дзерлі, так і дзяруць, школаў беларускіх не даюць, на ўрадовыя пасады Беларусаў не прыймаюць. Вось табе беларускі селянін, жыві як хочаш!... Дыхнуць няма чым! Нарэшце дачакаліся і г. зв. „маральнай санацыі“, але ў нашым жыцьці... ці-ж зьмянілася што!

Цяпер ужо польскія партыі страцілі ў нашым сялянстве тую прыхільнасьць, якую мелі тагды, дык ужо неяк і прыціхлі — ня сыпляць абяцанак. Але за тое знаходзяцца розныя падшыванцы, якія хочаць абаламуціць беларускі народ. Бо ці-ж запраўдныя Беларусы пайшлі-б на здраду каб гандляваць беларускім народам.

Толькі засталіся на правідловым шляху двох запраўдных беларускіх паслоў у асобах Ярэміча і Рагулі, якія сталі ў абароне беларускіх сялян, арганізуючы сялянскую партыю Беларускі Сялянскі Саюз.

Дык вось, паважаныя браты-сяляне! толькі ў Сялянскім Саюзе вы знойдзеце шчырую праўду для вас, тут вас ніхто не ашукаець, бо толькі тут уваходзяць у сваю арганізацыю сяляне-беларусы, бо гэта вашая партыя, якая змагаючыся здабудзець сабе сьветлую будучыну, ідучы супольна і незалежна, як соцiяльна, так і нацыянальна пад бела-чырвона-белым беларускім сьцягам з дэвізам „Беларусь для Беларусаў“!

Толькі мы самі здабудзем сабе нацыянальныя правы і вызвалімся ад паноў-абшарнікаў ды направім сацыяльныя несправядлівасьці... Але дзеля гэтага трэба быць арганізованнымі.

Дык не адкладывайце на заўтра, а сёньня запісывайцеся ў Беларускі Сялянскі Саюз, бо „ў еднасьці сіла!“ **Беларус.**



# Да нас пішуць.

### У справе самаўрадаў.

(Лаварышкі).

До пана Ф. Ярэміча
пасла на Сойм!

Дня 7 жніўня с. г. Міскунскай валасной радай праведзены выбары да Віленска-Троцкага павятовага сойміку, каторыя уважаю за не адпаведныя, спецыяльнаму для такіх выбараў, закону. У законе сказана ясна, што запросіны п.п. радным на паседжаньне валасной рады дзеля дакананьня выбараў делегатаў у Соймік, мусяц быць даручаны пад паквітаваньне за 5 дзён перад такім паседжаньнем і што гэныя паквітаваньні мусяць быць на такім паседжаньні перагледжаны перад распачацьцем такіх выбараў. Тым часам на выжэй сказаным паседжаньні ня былі прысутныя два радныя і паквітаваньняў аб даручэньні ім запросін не было, а прысутныя п.п. радныя квітавалі свае запросіны пасьля выбараў, бо валасны ўрад казаў, што паквітаваньні трэба далучыць да пратаколу, а на паквітаваньні непрысутных радных, валасны пісар сказаў, што пад'едзе да іх заўтра і яны паквітуюць. Аб выжэй сказаным радны п. Янкоўскі Фр. злажыў на пісьме, як сябра выбарчай камісіі, заяву. Далучаючыся да заявы п. Янкоўскага, пацьвярджаю выжэй сказаныя факты, як згодныя з праўдай і прашу п. пасла, як прадстаўніка сялянства пачыніць адпаведныя захады, каб гэная справа адпаведнымі ўладамі была разгледжана і гэныя выбары, як ня згодныя з законам, былі скасаваны.

П.—К.

### Табачны „падатак“.

(Пружаншчына).

Апошнімі днямі пачалося ў нашай мясцовасьці масавае „паляваньне паноў“ на табак.

Усе гароды сялян, усякія закуткі пільна аглядаліся, кантраляваліся, і калі дзе-колечы знойдзены быў хоць адзін корч самасею-табаку, дык і за той сьпісваўся пратакол і спаганяўся штраф.

Так у селяніна в-кі Зубачы, Селецкае в., С. Р. знойдзена было некалькі нвніцелых корчыкаў у гародзе, і камандант селецкага пастарунку сьпісаў пратакол, ня зважаючы на ніякія просьбы селяніна.

У іншых таксама знойдзена два-тры карчы — пратакол, і давай сюды грошы.

Скарбовая скрынка пустая, урадаўцы просяць надбаўкі пэнсыі, грошай многа трэба...

А вось цікава, што асаднікі быццам не належаць да польскае дзяржавы, бо ў іх болей пасеяна табакі, але-ж яны пад табачны падатак не падходзяць?! Свой свайму вока ня выклюе.

Полымя.

### Ахвяры на касьцёл бяз Бога.

Дня 21 жніўня с. г. ў Барадзенічах адбыўся фэст св. Роха. На падобных фэстах, як заўсёды, адзін з ксяндзоў збірае ахвяры на касьцёл, ходзячы па касьцеле дый на цвінтары. Гэным разам зьбіраць ахвяры выпала на долю Барадзеніцкаму пробашчу слаўнаму кс. Мажэйку. Не даволі таго, што зьбіраў ахвяры ў касьцеле і па цвінтары, але-ж яшчэ вышаў і на вуліцу, дзе стаялі гандляры з баранкамі, цукеркамі і булкамі, ад якіх наноўка дамагаўся, каб клалі ахвяры на касьцёл па 20 гр. з кожнага, не разьбіраючы ці жыд, ці праваслаўны. Як толькі жыды ды праваслаўныя адмовіліся даваць ахвяры, кс. Можэйко пачаў іх праганяць прэч з рынку, якія ведама-ж яго не паслухалі „To już za grube żarty“.

Пасьля гэтага на трэці дзень фэсту 23 жніўня ў тым жа касьцеле адзін з ксяндзоў, на навуцы сказаў, што ксёндз Шутовіч выгнаў з Барадзеніцкага касьцёла Бога і што ў гэтым касьцеле зусім ужо няма Бога. Цікавая штука. Да каго-ж тады маліліся ксяндзы з людзьмі і перад кім яны згіналі каленьні, праходзячы міма аўтара і на які касьцёл, гэтак старанна зьбіраліся ахвяры?

Кароль Цыбук.

### Здаровы голас.

(Пружаншчына).

У кірмашовыя дні, у м. Пружанах можна часта бачыць п'яных да непрытомнасьці, якіх паліцыя, як бараноў цягне на пастарунак, ды па дарозе добра частуе... Так праспаўшыся кожны з іх доўга памятае гэты „пачастунак“. Тут, дык паліцыя выяўляе максымум энэргіі. Іначай справа выглядаець у гэтакіх вось здарэньнях: стаіць на рынку некалькі столікаў, да якіх паны ў фокстротах вабяць рознымі прынанкамі несьвядомых сялян. Гэта азартная грашовая ігра. Бяда той асобе, якая пападзець ім у рукі! Я сам быў сьведкаю, як селянін з в-кі Коцелкаў прадаў апошнія некалькі пудоў жыта на падаткі, дык гэныя абдзіралы, амальшто сілаю, вырвалі грошы з рук у яго. Паліцыя стаяла ды сьмяялася. Ці-ж гэта не парадкі?... Сяляне! дык зразумейце-ж, што няма такіх грабляў, каторыя граблі-б ад сябе, адхіляйцеся і высьцерагайцеся гэтакіх канцэсіянераў. Усе яны на нашай несьвядомасьці выяжджаюць. Не трацьця грошы і на гарэлку. Лепей купіць кніжку ці выпісаць сваю газэту і пазнаць што робіцца на сьвеце, як за грошы свае атручваецеся і наводзіця сябе на беспатрэбныя страты. Пара пазнаць гэта злое і кінуць.

Мікалай Бедны.

### Дачакаліся.

(Пружаншчына).

Ужо няраз пісалася на старонках „Сялянскае Нівы“ аб тым, як сяляне вёскі Сашыцы змагаліся за родну школу. Сколькі перашкод была пры складаньні дэклярацыяў, сколькі рэпрэсіяў тасавалася да тых з сьвядомых сялян, якія кіравалі гэтай справай. Было падана 40 дэклярацыяў на 60 дзяцей.

І вось апошнімі днямі прышоў адмоўны адказ п. куратара: толькі на 30 дзяцей асталіся важнымі дэклярацыі, а 30 паны інспэктар і куратар уняважнілі, ведамымі ім самым прычынамі.

Ня гледзячы на змаганьне і барацьбу за родную школу, гэткім чынам, і надалей застаецца у в. Сашыцы польская школа,—для духовага калецтва нашых дзетак, з яе няізменнай вучыцелькай п. Здановіч.

Полымя.

## НАШАЯ ПОШТА.

**Полымя.** Гр. Скробату газэту пасылаем. № 48 і 60 выслалі.

**Дасталі ад:**

Улевіча Ст. — 5 зл.

Запіляя Давілы, Лукевіча Алекс., Латышонка Базыля — па 2 зл.

Ліпскага Ф., Дубіны Ів. — па 1 зл.

Усім новым падпісчыкам газэту пасылаем.

## БІРЖА.

Вільня, 6.IX. 1927 г.

ВАЛЮТЫ:

| | | |
|---|---|---|
| Даляры . . . . . . . . | 8.89—8.91 | зл. |
| Рублі зал. (10 р.) . . . . | 46.10—46.25 | „ |

ЗБОЖЖА, ЗЕМЛЯРОБ. І ІНШ. ПРАДУКТЫ

Вільня, 6.IX. 1927 г.

| | | |
|---|---|---|
| Жыта за 100 кг. (6 пуд.) . . | 38.00—39.00 | зл. |
| Авёс „ „ . . | 37.00—39.00 | „ |
| Ячмень брав. „ . . | 42.00—45.00 | „ |
| „ на кашу „ . . | 38.00—40.00 | „ |
| Пшаніца „ . . | 00.00—00.00 | „ |
| Сланіна тутэйшая I гат. 1 кг. . | 4.20—4.50 | „ |
| Клустасьць свінная „ . . | 4.80—5.00 | „ |
| Масла несал. за 1 кг. . . . . | 5.00—5.50 | „ |
| „ салён. . . . . . . . . | 4.50—5.40 | „ |
| Сьмятана за 1 літр . . . . . | 1.80—2.00 | „ |
| Тварог „ . . . . . . | 1.80—1.20 | „ |
| Яйкі за 1 дзес. . . . . . . | 1.00—1.20 | „ |

## КУТОК СЬМЕХУ.

### У школе.

Вучыцель: Што станецца з місай вады і з місай малака, калі мы іх патрымаем цэлую гадзіну на марозе? Адкажы мне Янкель.

Вучань Янкель: У той місе дзе была вада—будзе лёд, а дзе малако—будзе сыр.

### Свая кашулька бліжэй к целу.

— Чаму гэта ў Цэнтральным гуртку Школьнае Рады усё вядзецца на расейскі лад?

— Бо Старшыня гуртка гр. Мітрафанаў дагэтуль не навучыўся беларускае мовы, а свая кашулька бліжэй к целу.



Рэдактар і выдавец К. Мацкевіч

Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.